# Гарадзенская КРЫНіЦА

**Як жыць так жыць для Беларусі, а без яе навошта жыць.**
**БХД**

**№003, КРАСАВІК 2012**


## АНОНСЫ АНОНСЫ АНОНСЫ




**Павел Севярынец, падарожныя нататкі.**



**Са сшытка гарадзенскай інфармацыі.**



**Чэмпіён РБ вядомы, чаго чакаць ад ЧС.**





Сяржук Каваленка і ў вязніцы-шпіталі працягвае барацьбу за высокія ідэалы адраджэння Бацькаўшчыны, яе духоўных і гістарычных сімвалаў. Яго пакуты паборніка хрысціянскай маралі і ісціны ў гэтыя Велікодныя дні роўныя па велічнасці пакутам Выратавальніка, які пайшоў за нас на крыж.

Бел-чырвона-белы штандар, - сімвал Велічнасці праўды і ласкі Божай, і за яго гатоў панесці кару голадам беларускі вязень сумлення, ахвяра крывадушша сістэмы.



**ОЙЧА НАШ**

*Ойча наш, каторы ёсць у небе,*
*Сьвяціся імя Тваё,*
*Прыйдзі валадарства Тваё,*
*Будзь воля твая як у небе,*
*Так і на зямлі.*
*Хлеба нашага штодзённага*
*Дай нам сёньня ,*
*І адпусці грахі нашы,*
*Як і мы адпускаем*
*Вінаватым нашым,*
*І няўводзь нас ў спакусу,*
*Але пазбаў нас ад злога.*
*Бо Тваё валадарства,*
*І сіла, і слава,*
*Айца, і Сына, і Сьвятага Духа,*
*Цяпер і заўсёды, і на векі вякоў!*

**АМІНЬ**

# Радныя БХД сустрэліся ў Менску

Чарговая сустрэча радных абласных філій БХД ў Менску насіла прынцыпова-дзелавы характар.

Прадстаўнікі з рэгіёнаў мелі намер пачуць канкрэтныя заявы лідараў партыі наконт маючых адбыцца сёлета выбараў. Рэгіянальшчыкі, а іх было больш трыццаці чалавек з ўсіх куткоў Бацькаўшчыны віталі захады кіраўніцтва партыі ў накірунку падтрымкі палітычных вязняў, іх вызвалення з турмаў і спынення пераследу тых, хто смела выказвае сваё негатыўнае стаўленне да эканамічных і палітычных фарсаў ўладнымі на тэрыторыі роднай краіны.

Пасля прачытання традыцыйнай малітвы Ойча Наш ўдзельнікі прыступілі да афіцыйнай часткі. Дарэчы, яна ўбірала ў сябе чатыры пытанні, галоўным сярод якіх было байкатаванне чальцамі БХД будучых выбараў на ўсіх ўзроўняў. Хвалявала беларускіх Хрысціянскіх дэмакратаў і тое, што некаторыя апазіцыйныя палітычныя партыі пачалі актыўна на месцах і ў цэнтры рыхтаваць папярэднюю глебу да выбараў ў дэпутаты.

Рэяводца, а ім аднагалосна быў абраны Дзяніс Садоўскі давёў прысутным мэты і сэнс байкоту выбараў на тэрыторыі Беларусі. У прыватнасці спадар Дзяніс зазначыў: "Ўдзельнічаць ў працэсе падрыхтоўкі выбараў і іх правядзення безсэнсоўны працэс. Вынік можна прадказаць ўжо зараз на ўсе сто працэнтаў. Няўдзел у выбарах дае нам шанец пазастацца адзінай структурай якая не пайшла на якое-кольвечы супрацоўніцтва з рэжымам. Калі так зробяць і астатнія апазіцыйныя рухі і партыі , то рэжым Лукашэнкі адчуе пасапраўднаму дзеянне апазіцыі, бо ён пазастанецца сам-намас з электаратам, якому неабходна будзе даць тлумачэнні, чаму апазіцыя ігнаруе "такія дэмакратычныя выбары". Ўладутрымаючым давядзецца нешта прыдумваць круціцца перад грамадзкасцю вужакай. Ўплыў ад няўдзелу ў выбарах на даўно страціўшага сумленне рэжыму, ўплыў на грамадзкія думкі, меркаванні будзе. І гэта лепш чым электарат пачуе традыцыйнае, што апазіцыя пайшла на выбар, а затым на пратэсты, каб адпрацаваць тыя сродкі, якія ёй ахвяравалі дэмструктуры Эўрасаюза і Расейскай федэрацыі".




Ўдзельнікі нарады пагадзіліся з такімі аргументамі рэяводцы. Прагаласавалі за праграму няўдзелу чальцоў партыі БХД ў выбарчым працэсе, але пазаставілі за сабой права назірання за тым, як фарміруюцца выбарчыя камісіі ў цэнтры і ў рэгіёнах, як ідзе вылучэнне кандыдатаў, як рыхтуюцца выбарчыя акругі і ўчасткі.Датагож , каб надаць працэсу належны палітычны і дзелавы сэнс, сябры партыі БХД ня маюць права браць ўдзел ў падтрымцы якой-кольвечы праграмы дзеяння вылучэнцаў кандыдатамі ў дэпутаты любога ўзроўню ад іншых партый і рухаў. Працаваць ў падтрымку вылучаных кандыдатамі ад апазіцыі на выбары і выбарах. Бэхэдоўцы могуць прысутнічаць на сустрэчах, канферэнцыях любога ўзроўню толькі з мэтай тлумачэння пазіцыі партыі.

На гэтым рэяводцца прапанаваў спыніць свой даклад і перайсці да спрэчак.

Ў абмеркаванні праграмы дзеяння выступілі прадстаўнікі БХД ад Віцебска, Рагачова, Гомеля. Прыемна, што ў сваіх выступах дэлегаты ад рэгіёнаў разумелі задачы цэнтра і выказвалі сваю падтрымку захадам лідэраў БХД.

Дарэчы, з месцаў і ад выступоўцаў гучалі і такія прапановы, як пачаць актывам БХД ў сталіцы і на месцах акцыі па перайменаванню вуліц нашых гарадоў і пасёлкаў імёнамі тых, хто рупіўся і аддаў сваё жыццё за ідэі заснавання і развіцця Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі.

# Ад менскіх рашэнняў да гарадзенскіх дзеяў



Побыт ў Менску гарадзенскай дэлегацыі непазастаўся без ўвагі актывістаў БХД нашага Прынямоння.

Як і належыць радныя сабраліся ў аўторак 27-га сакавіка дзеля справаздачы.

Лідар і заснавальнік абласной суполкі БХД Мікола Баўсюк дасціпна давёў мэты і задачы Цэнтральнай Рады БХД , дадаўшы, што Цэнтрам пастаўлена задача вывучэння на месцах варыянтаў рэгістрацыі абласных арганізацый БХД іх актыўнай працы ў перадвыбарчы і выбарчы перыяд па тлумачэнню эканамічнай, палітычнай і знешнепалітычнай сітуацыі на зямлі Беларусі, якая паўстала дзеля безпрынцыповай і разбуральнай дзейнасці дзеючых ўладных структураў, іх негатыўнае стаўленне да беларускай нацыянальнай ідэі, разбуральная практыка знішчэння і прыніжэння беларусчыны ва ўстановах адукацыі рэспублікі. Далей спадар Мікола заўважыў, што абласная арганізацыя падзяляе пазіцыю Цэнтра і будзе актыўна прапагандаваць новыя ідэі і захады лідараў беларускіх бэхэдоўцаў, рухацца ў рэчышчы іх палітычных дзей.

Не было забытым ўвагай нашых сяброў Вялікае Беларускае Свята, як чарговыя святочныя ўгодкі да Дня абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі.

Даклад і каментар да гісторыі БНР , яе дзейнасці ў Менску, Коўне , Гародні, сучасным гісторыкапалітычным моманце расказаў прысутным актывіст і ветэранлідар беларускага адраджэння ў Гародні Мікола Воран. яшчэ дакладца засяродзіў увагу прысутных такім пытаннем, як фактычнае ігнараванне Дня прыняцця Беларускай Канстытуцыі дадаўшы, што гэты асноўны дзяржаўны закон шматразова зменены сучаснымі ўладнымі дзеля іх панавання ігнаруецца імі без ўсялякага сумлення, а тыя паўзахады, што практыкуюцца на месцах і ў сталіцы ня больш чым цынізм і здзек.

Непрамінулі гарадзенскія радныя і тэмы самай сучаснай і вельмі трагічнай старонкі нашага існавання, тэмы Чарнобыльскай катастрофы. Зазначалася, што здрадніцкая палітыка па замоўчанні бяды Чарнобыля тагачаснымі камуністамі і іх маскоўскімі хаўруснікамі нанесла фактычна непапраўныя шкоды зямлі нашае Айчыны яе народу. І зараз тыя, хто называе сябе “сучаснымі беларускімі кіраўнікамі – лідарамі” мала клапоцяцца аб належным вырашэнні праблемы Чарнобыльскай катастрофы на міжнародным ўзроўні. Ўсяляк абмяжоўваецца праца незалежных міжнародных арганізацый, што спрабуюць дасканала вывучыць і ведаць наступствы Чарнобыльскай тэхнагеннай бяды, дзеля захавання будучых пакаленняў усяго чалавецтва.

## Інфармацыя ад рэгіянальных абласных суполак

### Магілёў

З Магілёва нам даслалі допіс, што Алег Аксёнаў - намеснік каардынатара аргкамітэту па стварэнні партыі БХД па Магілёўшчыне дамогся ад адміністрацыі Магілёўскага домабудаўнічага камбінату звальнення з выплатай трохмесячнай кампенсацыі ў сувязі з парушэннямі наймальнікамі артыкулаў працоўнага кодэксу. Нагадаем, што спадара Алега адміністрацыя жадала звольніць па сканчэнні працоўнага канртакту без ўсялякіх сацыяльных дапамог.

### Бабруйск

У Бабруйску мясцовыя актывісты БХД пачалі збор сродкаў для сям’і Сяргея Каваленкі.Апроч гэтага актывістамі БХД горада самастойна пішуцца малітвы і цытуюцца ўрыўкі Біблii дзеля паляпшэння ўмоў ўтрымання вязняў асуджаных сістэмай за іх перакананні, і іх хутчэйшага вызвалення.

Нагадаем, што раней такую акцыю правялі сябры БХД Гародні, яны сабралі для сям”і Сяргея Каваленкі амаль паўтарамільёны беларускіх рублёў і перадалі іх ў бюджэт сям’і галадаючага.

### Гомель

Гомельская міліцыя затрымала трох актывістаў БХД якія праводзілі акцыю пад лёзунгамі ”Хопіць піць – трэба жыць”. Акцыю гамяльчан здымалі невядомывя апаратары, а затым яе ўдзельнікаў адвялі ў невызначаным накірунку і адпусцілі.

### Рагачоў

Каардынатара ар描камітэта па стварэнні партыі БХД ў Рагачове Дзяніса Дашкевіча звольнілі з працы ў мясцовым “РайПа”. Матывацыя для звальнення Дзяніса ў адміністрацыі прадпрыемства банальная “актыўная палітычная пазіцыя і дзейнасць маладога чалавека”. Яшчэ да нашага калегі мае судовы праслед рэдактар мясцовай раённай газеты “ Свабоднае слова”.

Зараз бэхэдоўцы Рагачова чамусці маюць вялікі намер правесці ў сваім горадзе дзяржаўнае свята “ Дажынак” . Для гэтага яны сабралі больш трохсот подпісаў жыхароў райцэнтра. Цікава, да каго яны будуць апеляваць вынікамі сваёй акцыі?

Гарадзенская КРЫНІЦА


Са сшытка гарадзенскай інфармацыі



## Зволіць, каб выжыць

Сапраўдным прэсам-душыцелям стаў ў гэты перыя эканамічнага і духоўнага занядбання падаткавы збор для прадпрыемстваў малога і сярэдняга бізнесу Гарадзеншчыны.

Многія прадпрымальнікі ідуць на самыя непапулярныя меры звальняючы працуючых, альбо закрываюць свае вытворчыя цахі. Некаторыя менш дасціпныя спрабуюць выжыць парушыўшы падаткавае заканадаўства, што можа прывесці іх на лаву падсудных. Найбольш кампітэнтныя, хто мае свае юрыдычныя службы робяць справу крыху інакш, яны не звальняюць рабочых, а наадварот, працягваюць з імі супрацоўніцтва, але ўчарашнія сантэхнікі, цесляры, муляры, тэхнічкі працуюць пазаштатам, выконваючы тую самую работу як індывідуальныя прадпрымальнікі.

## Чаўночны гандаль, як спосаб выжывання

Яшчэ некалькі год таму гарадзенскія чаўнакі спора працавалі на торжышчах суседняй Польшчы, Летувы. Зараз сітуацыя палярная. Сведчанне таму чэргі, хоць яны і ёсць, але зусім не такія, як калісці. Прычына хаваецца не ва ўступленні гэтых краін ў Эўразвяз і ад гэтага нятанных візах, а зусім ў іншым. Тут і канкурэнцыя гандлючых прадпрыемстваў і нежаданне польскіх і летувіскіх гуртоўняў прадаваць танныя артыкулы беларускім чаўнакам.

Менавіта гэтыя пытанні аўтар і высвятляў ў гарадзенскага чаўнака з больш чым дваццацігадовым стажам Міколай Карнавухам.

Па глыбокаму перакананню спадара Міколы на Гарадзеншчыне, як і на астатняй тэрыторыі Беларусі ўжо даўно сфарміраваўся клас бізнесменаў-чаўнакоў. Яны даюць немалы прыбытак ў выглядзе падаткаў з атрымання мыта ў мясцовы і рэспубліканскі бюджэт. Такі спосаб атрымання дадатковых бюджэтных сродкаў вельмі выгодны краіне. Ён танны, дзяржава на развіццё чаўночнага бізнесу не траціць амаль ні капейкі. Яна нават ня вельмі спяшае фінансаваць такія фінансаванезатратныя праекты, як стварэнне сеткі камфортнага камунальнага абслугоўвання чаўнака - гэта танныя матэлі, аўтасервіс. Канечне нешта робіцца. Прыклад такой дзейнасці мытныя пераходы "Прывалка", "Брузгі", рэканструкцыя чыгуначнага вакзала ў Гародні і многае іншае. Але гэтага мала, каб сучасны чаўночнік мог інтэнсіўна працаваць, а яго месца працы гуртоўня, дарога, торжышча і наадварот. Тут неабходна яшчэ рабіць і рабіць ўладным ў галіне прыдарожнага сервісу.

Тыя, хто нядаўна і мала працуе ў гэтай чаўночнай сферы могуць пярэчыць, але годы праведзеныя ў руху на трасе Гародня-Беласток і Гародня-Масква даўно пераканалі маяго суразмоўцу , што чаўнаку не спрыяюць, а наадварот шкодзяць.

Нам не дагусту нават размовы ў замежжы аб эканамічных санкцыях да нашай краіны, калегі-замежнікі перапытваюць, што ў вас там людзей ні за што кідаюць у турмы, забараняюць праводзіць страйкі, дзе вы жадаеце? І ведаеце, я адчуваю нейкую пагарду з боку задаючых пытанні. На жаль, на Беларусі ўсё так, ўладныя фінансуюць каштоўныя спартовыя праэкты, сварацца з Эўразвязам, адмаўляюць прыняццю эўрапейскіх жыццёвых каштоўнасцяў прыдумаўшы невядомую ў свеце беларускую мадэль развіцця. А ўладным неабходна толькі ўспомніць, што гандаль – гэта своеасаблівы рухавік прагрэсу, рэгулятар насычэння рынку таварам, і заўжды гэтай справай займаўся гандляр-перавозчык. Рэспектабельны выгляд якога ствараў прывабны імідж той краіны, якую ён прэзэнтаваў.

## Карту паляка атрымае ня кожны

Згодна інфармацыі ад дасведчаных крыніц, карту паляка можа атрымаць ня кожны грамадзянін Беларусі хоць ён і мае польскія радавыя карані. Такі непісаны вусны загад ад чыноўнікаў самага высокага дзяржаўнага маштабу маюць тыя, хто нясе службу на адказных дзяржаўных пасадах абласнога, раённага і гарадзкога ўзроўню.

Тых, хто парушыць гэтае правіла чакаюць самыя жорсткія санкцыі.

# Святочны гандаль на вуліцах Горадні

Амаль два тыдні будзе доўжыцца ў горадзе над Нёманам фэст Вялікодняга гандлю. Свае тавары прапануюць пакупніку гандляры, мастакі, народныя ўмельцы, самадзейныя артысты.

Якім жа артыкулам вулічнага гандлю аддаюць перавагу гарадзенцы і госці горад?. Наш карэспандэнт пагутарыў на тэму гэтага дасціпнага пытання з удзельнікам святочнага гандлю, гарадзенскім мастаком Сяржуком Клімовічам. Насамрэч зазначае мастак, пакупнік сёлета стаў своеасаблівы. Ён не выкіне грошы на нейкую забаўку, ці малапатрэбную рэч, а наадварот аддае прыарытэт патрэбнаму, надзённаму тавару. І справа тут не ў прагматычнасці пакупніка, яго разуменні прапануемага тавару. Зараз ў перыяд ўсеагульнага дыфіцыту ўсе лічаць грошы, і набываюць толькі патрэбнае.

Дарэчы, ў прыватных размовах з пакупнікамі высветлілася, што ўсе разумеюць прычыны зацянуўшагася эканамічнага крызісу прыпыненне якога бачаць толькі ў змене сістэмы ўлады і гаспадарання.

# Выстава Вялікодных яек



Дзяржаўны музей гісторыі рэлігіі Гародні наноў парадаваў сваіх наведвальнікаў арыгінальнай выставай.

На гэты раз дапытліваму гледачу прапанавана новая экспазіцыя, якую склалі фарбаваныя яйкі згодна хрысціянскіх біблейскіх традыцый.

Ідэю стварэння такой незвычайнай выставы прапанавала Настаяцельніца гарадзенскага жаночага кляштара Матушка Гаўрыіла. Калекцыя Матушкі склала толькі пэўную частку экспазіцыі. Дзякуючы намаганням супрацоўнікаў музею, а да ідэі нетрадыцыйнага праекту далучыліся і спецыялісты музею, і гарадзенцы. наяўнасць экспазіцыі стала больш разнастайнай і пярэстай. Ўсяго на выставе экспануюцца Вялікодныя пісанкі майстроў Чэхіі, Польшчы , Расеі, Нямеччыны.

## Святыя абразы перададзены гарадзенскаму музею

Гарадзенскія пінкертоны маюць права гонару.Напярэдадні Вялікодных святаў імі затрымана банда крадзежнікаў, што спецыялізавалася на рабаўніцтве ўстаноў культу.Злодзеяў затрымалі ў горадзе Баранавічы, дзе яны захоўвалі нарабаванае ў хрысціянскіх святынях Дзятлаўшчыны. Канфіскаваныя ў рабаўнікоў прадметы культу, а гэта два мастацкія абразы з выявай Міколы Цудатворцы, і сюжэтны абраз з выявай Багародзіцы і святых Анёлаў выкананыя напачатку дваццатага стагоддзя ў тэхніцы хромалітаграфіі, зараз перададзены для даследаванняў экспертам. Затым іх чакае шлях вяртання ці наноў ў муры святых абіцеляў, ці далейшае іх захаванне ў дзяржаўных музеях.

## Замок гарант трываласці шлюбу



Эўрапейскія традыцыі паўплывапі і на маладых гарадзенцаў і гарадзенак. Цяпер яны беручы шлюб намагаюцца прыўнесці ў ягоны шарм новы аксаміт.

Так наўзамен традыцыйнага наведвання Кургана Славы, Плошчы Леніна і фатаграфавання побач гэтых незразумелых цывілізаванаму грамадзтву "помнікаў гісторыі" тыя, хто ўзяў шлюб спрабуюць адзначыць гэты свой гістарычны лзень, вяртаючыся да эўрапейскіх традыцый. Ад нядаўна гарадзенскія маладажоны пачалі замацоўваць трываласць шлюбу замыканнем навясных замкоў на маставой агароджы праз раку Нёман. Раней для гэтага, яны выкарыстоўвалі невялікі мост на тэрыторыі парку культуры імя Жылібера.

## Сальса распальвае імпэт маладых гарадзенцаў

Для аматараў віхурустых танцаў гасцінна адчыняе свае дзверы танцпол былогы Дома афіцэраў горада.

Менавіта гэткія лацінаамерыканскія танцы сталі сапраўдным рытуальным адпачынкам гарадзенцам, штомесячны прыбытак якіх не сягае вышэй за паўтары мільёны. Маладыя гарадзенцы і гарадзенкі штотыднёва збіраюцца правесці тут гадзіну – другую ў рытмах сальсы і румбы. Праводзяцца туры танцаў на дабраахвотнай аснове.

І калі глядзіш на гэтую імпэтную маладую віхуру танцуючых думаеш, што яшчэ не ўсё страчана, і на свеце існуюць самаахвярнікі, гатовыя ў такі няпросты эканамічны час, забыўшыся на свае барышы і даходы рабіць для людзей такі вось маленькі цуд.

# Чарамша пад пагрозай

Чарамша, альбо па народнаму “зайчыкава цыбулька” - згодна інфармацыі медыкаў сапраўдная аптэка лекаў. Таму, беларускія біёлагі заўжды ганарыліся гэткім гатункам беларускай флоры.

Бязмежнае, барбажынскае выкарыстанне расліны як панацэі ад хвароб прывяло да значнага зніжэння папуляцыі чарамшы ў дзікай прыродзе. Як факт, чарамша стала раслінай занесенай ў Чырвоную кнігу.



Не выключэнне гэтаму і Гарадзенскі край. Невялікія парасткі чарамшы засталіся ў дзікіх чашчобах Налібокскай і Ліпічанскай пушчаў, ды ў Азерскім панізоўі Гарадзенскага раёна.

Аднак і тут расліна адчувае да сябе значную зацікаўленасць браканьераў.

Шчыруюць на вясеннім зборы чарамшы мясцовыя ахвочыя лёгкага прыбытку. На торжышчы шклянка лукавіцы чарамшы каштуе некалькі дзесяткаў тысяч беларускіх рублёў. І гандляры, што прадаюць гэты прыродны рарытэт з пад палы і хцівыя пакупнікі добра ведаюць, што здзяйсняюць злачынства. Але справа нажывы і мроя вылекаваць ту ці іншую хваробу перамагаюць сумленне чалавека.

Думаю, што сама прыспеў час згадаць на закон праваахоўнікам. Вось іх колькі шпацыруе на нашых вуліцах.

# Служба выратавання дае напамін

Вясна, настаў час вандровак на прыроду. Хтосьці адпраўляецца з сябрамі, нехта разам з сям”ёй, ёсць і такія, хто аддае перавагу персанальнаму адпачынку сам-насам.

Аднак, для ўсіх аматараў такіх вясенніх прагулак служба Міністэрства па Надзвычайных Сітуацыях нагадвае, што на прыродзе неабходна весці сябе годна.Найперш,не паліць сухой леташняй травы, бо гэта наносіць шмат шкодаў мікрафлоры і мікрафаўне. Трэба помніць, што пасля свайго выхаду на лона вясенняй прыроды неабходна добра прыбраць месца адпачынку. Забраць з сабой пусты посуд, затушыць вогнішча. Менавіта такая абыякавасць да абавязковага, нярэдка прыводзіць да непапраўных выпадкаў, калі здараецца лясны пажар з пераходам затым на гаспадарчы і жылы сектар. Летась служба выратавання зафіксавала больш дзесяці такіх выпадкаў.

Яшчэ такім турыстам трэба помніць, красавік - гэта час гнездавання пярнатых, час любоўных гуляў дзічыны. Давайце разам аберагаць іх пакой і камфорт.



# Эскулапы раяць

Цёплае надвор’е дадае трывогі за стан нашага здароўя медыкам. Адпачынак ў лесе, ці на ўлонні луга можа выклікаць шмат непажаданых праблем здароўю адпачываючага.Асабліва, калі арганізм разгарачоны моцнымі напоямі.Выпіўшы можа заснуць на халоднай глебе, можа купацца ў халоднай вадзе, а гэта прыводзіць да запалення лёгкіх, іншых востых прастудных захворванняў.

Вясна і ў прыродзе ажылі кляшчы, іх пранікненне ў наш арганізм зусім непатрэбнае, гэта можа выклікаць інфекцыйнае захворванне.

Трывожыць спецыялістаў і магчымы кантакт вандроўнікаў з іншай фаўнай нашых лясоў, напрыклад, з хворымі на шаленства лісамі, янотамі, іншымі гатункамі дзічыны, што можа нанесці значныя праблемы нашаму арганізму.

# Вударце і помніце

Вясна і аматары самага ціхага віду спорту, -вударыння апанавалі берагі рэчак і азёр. Аднак вударам неабходна помніць, што красавік і травень- месяцы, калі рыба ідзе на нераст. Браканьернічаць –гэта значыць, яшчэ больш панізіць ў вадаёмах Прынямоння колькасць традыцыйных і рэдкіх гатункаў рыбы.

Умовы вударыння прапісаны абласной інспекцыяй аховы навакольнага асяроддзя. Пра іх неабходна помніць, а яшчэ, дасканала выконваць.

# З крыніц міжнародных!

## Масква

У Крамлі расейскія прыўладныя палітыкі распачалі правядзенне кадравых ратацый. Дзеючы прэзідэнт Мядзведзяў і прэм’ер-міністр Пуцін памяняюцца кабінетамі, і толькі , іх далейшы лёс вызначаны. А вось астатнім палітыкам прэтэндуючым на высокія Крамлёўскія пасады наступае трывожны час. Грамадзкая думка бурліць вакол такой сенсацыйнай навіны, як замена губернатара Маскоўскай вобласці Громава, на цяпер ўжо эксміністра МНС Расеі Шайгу.

Такі вопыт ратацый дагэтуль быў малавядомы крамлёўскім апрычнікам. А новае і невядомае вельмі спакуслівая і небяспечна.

## Кароткі побыт на Радзіме

Днямі Гародню наведаў былы актывіст беларускага адраджэння на Гарадзеншчыне, ўрач- афтальмолаг па адукацыі, радны абласной Рады БНФ пачатку і сярэдзіны девяностых год мінулага стагоддзя Алесь Лобан.

Зараз спадар Лобан жыве на эміграцыі ў Галандыі. Працуе па спецыяльнасці, мае выдатнае жытло, шчаслівую сям”ю. А некалі Алесь Лобан ўцякаў з Радзімы пазастаўшыся без працы і якіх кольвечы іншых магчымасмцяў заробку. Ён быў жорстка пабіты расейскімі нацыяналістамі Гародні. Эміграцыя была панацэяй ад фізічнай расправы з ім і сям”ёй. Дапамаглі трапіць ў Эўропу безпрацоўнаму апазіцыянеру тагачасныя радныя гарадзкой Рады БНФ Гародні.

Падчас побыту госць-выгнаннік сустракаўся з сябрамі.распявадаў пра тых беларусаў, што жывуць на эміграцыі ў краінах эўрапейскага Бэнілюксу. Наведаў Малую Радзіму Лідчыну і канстатаваў, што на Бацькаўшчыне ўсё і ўсе сталі яшчэ больш шэрымі.

## Амерыка

Група кангрэсмэнаў ЗША выказала занепакоенне да інфармацыі аб продажы ваенна-прамысловаму комплексу Расеі новых вытворчых тэхналогій.

Вядома, што падчас выбараў каманда тагачаснага кандыдата ў прэзідэнты Расейскай Фэдэрацыі Уладзіміра Пуціна добра згуляла на імперскіх амбіцыях па аднаўленні супердзяржавы Расеі за кошт пабудовы новых суперсучасных субмарын,стратэгічных самалётаў –ракетаносцаў пятага пакалення, атамных надводных крэйсераў пераўзыходзячых гонар расейскай ваеннай навуковай думкі тыпу” Пятро Вялікі”. Аднак як стала вядома, расейскі навуковы патэнцыял ня мае такіх стратэгічных распрацовак каб здзейсніць передвыбарчыя абяцанкі. Такія тэхналогіі мае Эўразвяз і ЗША, а Расея мае прагу закупак гэтых “ноў-хаў”, што і турбуе прагматычных кангрэсмэнаў. Грошы адно, занятасць насельніцтва другое, а вось куды, і на якія аб’екты будуць накіраваны гэтыя навейшыя, зробленыя па заходніх тэхналогіях расейскія ўзбраенні пытанне не рэтарычнае і пазастаецца вельмі адчыненым.

## Эўропа

Эўрапейскі звяз рэкамендуе метады жорсткай эканоміі.

Менавіта да такіх пажаданняў кіраўніцтва звязу прыслухаліся чальцы ўрадаў Прыбалтыйскіх краін.На месцах, яны ўводзяць непапулярныя жорсткія абмежаванні ў карыстанні энерганозьбітамі.

Аднак, самымі непапулярнымі ў грамадзян краін Прыбалцкага рэгіёна з’яўляюцца законадаўчыя акты аб павышэнні цэнза пенсійнага ўзросту ад нарматываў, што былі прыняты яшчэ ў савецкія часы да сярэднеэўрапейскіх.

Наўзамен ха адміністрацыя Эўразвязу рэкамендуе ўрадам краін Сярэдняй Эўропы найхутчэйшага развіцця радовішчаў так- званага сланцавага газу. Яго прамысловае выкарыстанне ў значнай ступені знізіць залежнасць вытворчага комплексу гэтых краін ад расейскіх паставак прыроднага газу, прынясе экономію ў бюджэт і дасць магчымасці наноў ўспомніць аб сацыяльных гарантыях сваім грамадзянам.

Як вядома, згодна разлікаў эўрапейскага інстытура эканамічнага сыравіннага развіцця на залежы сланцавага газу багаты нетры Польшчы, Ўкраіны.

# Адам Станкевіч - гісторык і палітолаг



Асноўная частка кнігі «Да гісторыі беларускага палітычнага вызвалення» прысвечана гісторыі беларускага адраджэнцкага руху XIX - пачатку XX ст. Тут Ад.-Станкевіч упершыню вызначыў агульна-еўрапейскія і рэгіянальныя, беларуска-літоўскія вытокі гэтага руху, яго сацыяльныя і духоўна-культурныя карані. Першыя пачыналіся ў сацыяльна-палітычнай еўрапейскай рэвалюцыі канца XVIII - першай паловы XIX ст.; другія вядуць свой радавод ад еўрапескага рамантызму гэтай жа эпохі, які «абыймаў усе галіны духоўнага творства чалавека, а знача і навуку, асабліва гісторыю, філасофію і мастацтва». Праваднікам рамантычнай плыні, што моцна зацікавілася нацыянальнай самабытнасцю адціснутых з гістарычнай арэны народаў, быў у нашым рэгіёне Віленскі ўніверсітэт. Дзякуючы рамантычнаму абнаўленню культуры беларуская каталіцкая шляхта выдзеліла з сябе пачынальнікаў новай беларускай літаратуры (Ян Баршчэўскі, А.Рыпінскі, Ян Чачот, пазней В.Дунін-Марцінкевіч) даследчыкаў Міхала Бароўскага, Ігната Даніловіча і інш.

Ад.Станкевічу ўпершыню ўдалося «упісаць» беларускі вызваленчы рух у агульнаеўрапейскі прававы і палітычны кантэкст. Ён паказаў, што ў канцы XVIII ст. еўрапейская прававая навука абгрунтавала прынцып дзяржаўнай суверэннасці народаў, а пазней, у пачатку XIX ст. - ідэю федэралізму, паводле якой вольныя народы твораць адну дзяржаву на аснове дагавару. Кансерватыўную мадэль славянскай федэрацыі прапанавалі расійскія славянафілы, а мадэль народна-дэмакратычную - Аляксандр Герцэн, Міхаіл Бакунін, украінскі гісторык Мікалай Кастамараў - заснавальнік Кірыла-Мяфодаўскага брацтва, да якога належаў Тарас Шаўчэнка.

Усе гэтыя плыні і гістарычныя асобы паўплывалі на пачынальніка беларускага вызваленчага руху Кастуся Каліноўскага.

Яму прысвяціў Ад.Станкевіч асобны раздзел сваёй кнігі, а за год да яе выдання - брашуру «К.Каліноўскі, «Мужыцкая праў-да» і ідэя незалежнасці Беларусі» (Вільня, 1933), дакладна прадумаў цэнтральную ідэю беларускага паўстанца - адраджэнне Вялікага Княства Літоўскага як федэрацыі двух народаў. На думку даследчыка, К.Каліноўскі першым звярнуў увагу на гістарычны лёс беларускага народа, яго культуры і такім чынам, мабыць, нават падсвядома, пачаў новы этап палітычнай думкі ў Беларусі, эру змагання за яе дзяржаўную незалежнасць.

Тэалагічныя і гісторыка-культурныя погляды Адама Станкевіча падсумаваныя ў манаграфіі «Хрысціянства і Беларускі Народ» (Вільня 1940). Гэтая кніжка - вяршыня нашай філасофіі, гісторыі і рэлігійнай думкі. За выключэннем апошніх раздзелаў, яна ўпершыню надрукавана ў часопісе «Хрысціянская Думка» за 1939 год».

Біяграфічны нарыс пра Каліноўскага, напісаны Ад.Станкевічам, аналіз яго светапогляду і яго падпольнай газеты і сёння застаюцца ўзорньм даследаваннем гэтае тэмы. Ад.Станкевіч - бадай што першы даследчык, які паспрабаваў раскрыць сацыяльна-псіхалагічныя вытокі шляхецка-каталіцкага этапу беларускага культурнага адраджэнцкага і нацыянальна-вызваленчага руху ў XIX - пачатку XX ст. які парадзіў лідэраў паўстанняў 1793-1795, 1831, 1863 гадоў, а следам за паўстання-мі - новую беларускую літаратуру. Гэта ў першую чаргу збядненне фальваркавай шляхты аж да поўнага яе беззямелля, набліжэнне яе паводле сацыяльнага становішча да беларускага сялянства, што цярпела падвойную эксплуатацыю - царскабюракратычную і панскую, урэшце, традыцыі апазіцыйнага да царызму уніяцтва і рыма-каталіцтва, да якіх належала гэтая шляхта, у тым ліку продкі К.Каліноўскага. У Каліноўскага, адзначыў даследчык, не магло быць нацыянальнай свядомасці ў сучасным сэнсе гэтага паняцця, бо ў тагачаснай беларускай шляхты, да якой ён належаў, былі яшчэ жывыя традыцыі Вялікага Княства Літоўскага. Як народнік-федэраліст, дакладней, канфедэраліст, К.Каліноускі быў спачатку супраць ініцыіраванага польскімі шляхецкімі патрыётамі паўстання, спадзяваўся на дэмакратычную рэвалюцыю ў Расіі. Але рэвалюцыйная сітуацыя ў пачатку 1860-х гадоў пайшла на спад, расійская апазіцыя падаўлена. І калі польскія нацыяналісты паднялі паўстанне, К.Каліноўскі ўзначаліў яго ў Беларусі і Літве, каб вызваліць народ адразу ад царызма і польскіх паноў.



**Павал Севярынец - бязвінна асуджаны вязень, лідар Маладзёвага фронту, літаратурны творца, актывіст адраджэння духоўнай, эканамічнай, культурнай, вайсковай, гістарычнай спадчыны Бацькаўшчыны. Адзін з актыўных прапагандыстаў-паборнікаў аднаўлення на тэрыторыі Беларусі святых традыцый Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі, сузаснавальнік і сустаршыня аргкамітэту па стварэнні на нашай зямлі партыі з хрысціянскім аблічам БХД.**

**Зараз Павал Севярынец адбывае пакаранне за надуманае сістэмай карных рэпрэсій парушэнне існуючага крымінальнага кодэксу РБ. Якое накіравана супраць патрыётаў Беларушчыны. Але і ў вязніцы Павал мае ў руках свой Амафор дабрыні, які трымае за нас, сваіх паплечнікаў.**

**Сёння на старонках " Гарадзенскай крыніцы" мы пачынаем перадрук допісаў Паўла Севярынца**

## Фундамэнтальная Беларусь

Гэты цудоўны й таямнічы край, пра які я вам сёньня хачу распавесьці, большасьці чытачоў ПАГОНІ смутна знаёмы, калі яны гпядзяць сабе падногі. На карце дастаткова ўватнуць іголку цыркуля ў Вільню, і радыюсам прыкладна да Менску адкроіць усю Паўночна-Заходнюю Беларусь: захад Віцебшчыны па самы Полацк, нарачана-вілейскія ваколіцы Меншчыны ўлучна з Налібоцкай пушчай, і паўночную грыву Берасьцейшчыны - так, каб уся Гарадзеншчына апынулася ў зачараваным паўколе. Вось яна перад вамі, небясьпечная зона, якую баяцца крануць нават маштабнаштабныя расейскія геапалітыкі. Вось яна, вотчына нацыі, яе старажытнае логвішча й апошняя крэпасьць.

## Нацыянальная анамалія

З Масквы, з крамлеўскіх вежаў, Паўночна-Заходняя Беларусь сапраўды выглядае пагрозьліва - гэткае чужароднае воблака, цень прыбалтыйскіх цыклёнаў, на мяжы, дзе хмары ходзяць хмура. Расейскія стратэгі, ад граху падалей, плянуюць у нэа-імпэрыі згрэбці яе ў цьмяны кут, у якуюнебудзь бледнарускую аўтаномію. Мне па-чалавечы шкада тых расейцаў, якія раптам апынаюцца ў такой запаветнай глыбінцы. Тут вечны дух Вялікага княства працта стаіць у паветры, і наіўныя аматары «Белай Русі» пачынаюць насьцярожана моршчыць нос: ёмаё, штосьці ня тое. ХІмія нейкая, зусім ня наша. Патыхае ці то Рыскім узмор'ем, ці то Перадкарпацьцем, а то й цьфу-цьфу-цьфу, горнай Чачэніяй - ва ўсялякім разе, у вольным сярэднерускім стылі, як дзе-небудзь у Шклове, ужо ня дыхаецца. Дрыжыкі прабіраюць.

Сапраўды - якая там, туды яе душу, аўтаномія. Тут трэба казаць пра капітальнейшую нацыянальную анамалію. Страшна магнітную, прыцягальную, як прадоньне, анамалію з полюсам у мястэчку Суботнікі, Івейскі раён, дзе нарадзіўся геній чыстага беларускага нацыяналізму Зянон Пазьняк.

Калі вакол таго ж Магілеву ці, напрыклад, Віцебску аўры колішняе славы зараз ледзь-ледзь адсьвечваюць, дык тут трымаецца суцэльнае, магутнае духоўнае поле. Абшар пастаяннае нацыянальнае й міжканфэсыйнае напругі, які йснуе паводле сваіх законаў. Тут польская ідэя на рэгіянальным узроўні кампэнсуе расейскую прысутнасьць, і беларуская раўнавага паміж імі пачуваецца куды больш ёміста і ўпэўнена, чым у сталіцы. Энэргічнае каталіцтва ўсёй сваёй гіганцкай арбітай напружвае апошнія сілы праваслаўнай царквы; кананічнае супрацьстаяньне, у сваю чаргу, каталізуецца масавым пратэстанцтвам. Калі неасьцярожна сунуцца, электрычная дуга ад Расонаў да Ружанаў можа шандарахнуць токам будзь здароў. Гарадзкая інтэлігенцкасьць, як і хутарскае фэрмэрства, тут ня купляныя ў канцтаварах ці сельпо, і маюць не савецкаштучнае, а, як і належыць, грунтоўнае, глыбіннае, часам дынастычнае, паходжаньне. Словам, у нетрах Заходняе Беларуа дрыжаць жывыя сілы, і гэта на тле агульнабеларускага трансу адчуваецца вельмі моцна

Я сам упершыню ацаніў залатое дно Паўночна-Заходняе Беларусі, калі мяне хавалі ў гэтых мясьцінах пасьля падзеяў 97-га года - у той час куратарам Гарадзеншчыны быў шэры кардынал БНФ Вячаслаў Сіўчык. Тады й унушальная інфраструктура Фронту - ад начной эстафэты машынаў на трасе да падпольных лякарняў у глушы, - і маўкліва-змоўніцкі дух патаемных логвішчаў пакідалі ўражаньне перажытае легенды. Мне асабліва запомніўся ашмянскі гаспадар-кулак, барада караваем, які прымаў нас у велізарнай, як палац, двухпавярховай хаце. Паміж іншым, вырашаючы нашыя дробныя падарожныя праблемы, ён скрозь зубы цадзіў: "За зброю, хлопцы, брацца трэба, што вам тады казалі, за зброю,» - і не было ніякага сумненьня, што мужыку брацца ёсьць за што. Зрэшты я й зараз падазраю, што многія, вельмі многія жыхары памежнага сутоньня на ўсялякі выпадак складуюць па дамах ня толькі кантрабандныя відакі й пірацкія цыгарэты, але й нешта значна мацнейшае.

У дваццаці кілямэтрах ад гэтае грандыёзнаё хаты, на Валожыншчыне, вырас і мой інтэрнацкі сябрук Мар'ян, які ўразіў мяне, жыхара павальна атэісцкага Віцебску,

па-дамашняму звычайнай верай у Бога й цытаваньнем на памяць Катэхізму. Дый увогуле, пра што казаць: у Зэльве ладзіць беларускую шоўдыскатэку мне дапамагаў мясцовы бэпээсэм. Абсалютна шчыра й на роднай мове. Маўляў, усе мы патрыеты. Калі падумаць, у гэтым ёсьць нейкая лёгіка.

Уяўляю, як да болю шчыміць у гэтых мясьцінах заезджых нацыяналістаў адкуль-небудзь з Гомеля ці Бабруйску: вось дзе так хацелася б нарадзіцца.

Урэшце, у слове «фундамэнтальная», вынесеным у загаловак, цудоўным чынам скразіць «мэнтальнасьць». Чыстай вады, спрадвечны й такі каварны беларускі мэнталітэт моцны ў нашых анамальных краёх як нідзе. ЁН проста фаніць тут з усёй сваёй гасьціннасьцю, сапраўднай талерантнасьцю, млявасьцю й абыякавасьцю да жыцьця.

## Сціплы арыстакратызм Гарадзеншчыны

Калі разгпядаць нацыянальны рух у Паўночна-Заходняе Беларусі, у вочы кідаецца проста недарэчная неадпаведнасьць: пры велізарным патэнцыяле дзейнасьць вядзецца гэтак жа вяла й дрымуча, як і па ўсей рэспубліцы. Нацыя адпачывае тут, так сказаць, ува ўсіх сэнсах. Разбор такога пралёту будзе лягічна пачаць з саміх тутэйшых дзеячоў. І паколькі першую скрыпку ў краі грае Гародня, дык паспрабуем прыгпядзецца да яе бамонду.



Па-першае гарадзенцы ёсьць людзьмі элегантнымі й выкшталцонымі. Ня ведаю, ці здольныя яны, у прыватнасьці чытаць на памяць Гарацыя, але ў цэлым шэдэўр «Народнага Альбому» выдатна характэрызуе ўвесь заходнебеларускі фэномэн і яго насельнікаў. Шляхецкая афіцыйнасьць, каталіцкая прыстойнасьць, блікі лацінные польскасьці - кавалеры, што называецца, маюць манэры. Кожны гарадзенец у душы ўпэўнены, што яго продкі паходзяць калі ўжо не ад Вітаўта Вялікага, дык прынамсі ад Антонія Тызенгаўза, і мае някепскі досьвед у пытаньнях гісторыі, геральдыкі, краязнаўства і гд. Так што спытаць «Хто ты такі, адкуль ты ўзяўся?», а тым больш «далікатна змаўчаць» гэтае шаноўнае сладарства мае поўнае права.

Натуральна, у правінцыйнае Беларусі канца 20 стагодзьдзя такія нумары не праходзяць. Такая чапурыстая эліта павесьці за сабой масавы рух ня ў стане.

Па-другое, у часы СССР і жалезнае заслоны заходнія беларусы, жыхары памежжа, апынуліся ў становішчы тых, хто мусіць спаць тварам да сьценкі. І гэтая ўшчэмленая, скурчаная псыхалёгія даецца ў знакі дагэтуль.

Па-трэцяе, тутэйшыя беларусы, як і мае быць - самыя беларускія беларусы. Да мозгу касьцей. Прыбядняцца, спасылацца на цяжкі год і хамскі народ, адводзіць вочы й штось бурчэць пра сябе тут лічыцца правілам добрага тону. Хітра й прымружана, сабе наўме, прыхоўваць казырныя карты й выказвацца так цьмяна, каб кожны пачуў што хоча - таксама ох якая папулярная мясцовая завядзенка.

Нам, усходнікам, напэўна, гэтага ніколі не зразумець. У нас, у Віцебску ці Магілеве, іншая пляніда - выходзіць штодзень на вуліцу, як на вайну, чакаючы ўдару з-за рогу ці здрады са сьпіны. Адсюль і вырастаюць гэткія крыху звар'яцелыя людзі са сьціснутымі зубамі й ашклянелымі вачыма. Яны ведаюць, што на чужой тэрыторыі мішэні, і таму такія нэрвовыя. таму й трымаюцца так драпежна, і дзейнічаюць так рэзка. На кангрэсах ды асамблеях іх выдае ваўкаватая, падцятая зацкаванасьць і звычка адстрэльвацца ў любой размове да апошняга патрону.

Ня тое ў гарадзенцаў. Яны адчуваюць, што адступаць ёсьць куды, што за сьпіной зусім не Масква. У іх заўсёды нешта маецца на запас. Яны могуць дазволіць сабе не азірацца. Паводзіць сябе ганарліва, зь некаторай грэблівасьцю, запаволена й ленавата. Расслабіцца. Разамлець. Вось гэта іх і губіць. У выніку замест сапраўдных беларускіх фундамэнталістаў, якія маглі б утварыць у гэтай мацёрай Беларусі свой магутны клян, мы маем рой засяроджаных на саміх сабе арыстакратаў, што завісаюць між небам і зямлёй.

Сеньняшняя драма Заходняе Беларусі калейдаскапічна паўтарае адную й тую ж генэральную трагедыю Вялікага княства Літоўскага, Беларускай Народнай Рэспублікі й незалежнае Беларусі 90-х. Нацыянальная эліта абстрагуецца ад духоўных асноваў, ад Бога й зямлі, ад масавае падтрымкі народа, і падмяняе Ідэю тысячай прамежкавых мэтаў і йдэалёгіяў. Грамадзтва разрываецца між імі, беларускі маналіт у момант выбухае знутры, і разьлятаецца на асколкі. А сіла, якая сапраўды здольная скансалідаваць нацыю, узьняць яе да вяршыняў - так і не абуджаная.

## Дух дрэмле

Памятаю, гарадзенскія маладафронтаўцы паказвалі мне ў парку пры Новым Замку дзівоснае дрэва: яго вырвалі з ко-

ранем і ўкапалі ў глебу дагары нагамі. Уявіце сабе, у наступную ж вясну яно зазелянела, расквітнела, і лісьце разам з квеценьню буяла на былых каранях так, што страшна было глядзець. Жорсткі садоўніцкі зьдзек цудоўна характарызуе заходнебеларускую ўнікальнасьць: у гэтай зямлі, як ня ўторкні, дрэва зазелянее й аплодніцца, і хоць пачварна, звыродліва, хоць дагары нагамі - але будзе жыць, жыць, жыць!.. Таму што гэтая зямля спрадвечна, ротны. Ясна як дзень, што вырашае тут не пэрсанальнае высільваньне да пасіненьня, а масавае, мнагатысячнае варушэньне на ўсёй прасторы ад Ружанаў да Расонаў.

А пакуль дрымотная Паўночна-Заходняя Беларусь успрымаецца як тыл франтавога Менску ў змаганьні за незалежнасьць. Зразумела, з такой пасыўнай роляй нашай магнітнай нацыянальнай анамаліі ніяк нельга пагадзіцца. Трэба ператвараць фундамэнініцыятыва» - і можна ўзьняць увесь край за Беларусь так, што здрыганецца ня толькі афіцыйны Менск, але й расейскі генштаб. Геаграфічна заходняя, праэўрапейская плятформа -цудоўная база для лідарскага рэгіянальнага руху.

Варта толькі паверыць ва ўласныя сілы. Ацаніць сілу Духу. Сказаць сабе, што краіну чакае вялікая будучыня. Бог даў нам нарадзіцца на гэтай зямлі нездарма.

Ні ў якім разе нельга праспаць гэтае імгненне



невымерна нашая, ад бруку й грунту да артэзіянскіх глыбіняў.

Так, беларушчына тут запушчана, рыфмуецца нядрэнна, і нездарма. Дух дрэмле. Дрэмле ўся Паўночна-Заходняя Беларусь, ня ў сілах канчаткова заснуць, з пакутлівымі позывамі прачнуцца. Толькі, бывае, буркне нешта неразборлівае ў белы сьвет, і зноў пагружаецца ў дрыгвяную прастрацыю. І як не надрываюцца ў цьмяным скрозьсоньні некалькі адчайных інтэлектуалаў кшталту песьняра Шалкевіча, змагара Астроўскага ці рэдактара Маркевіча, але падняць на пупа паўкраіны ня здольны ніводны сьмятальны патэнцыял у наяўную сілу. Для гэтага зусім не абавязкова сьледаваць за ўкраінскімі аналягамі зь іх бытавым нацыяналізмам і школай баявога «гопака», ці арганізоўваць партызанскія зоны вакол Бярозаўкі ды Наваельні. І ніякіх арсэналаў зброі тут не патрэбна, кіньце вы. Тут жа ўсё сваё, тут можна браць голымі рукамі, жыўцом, па-паспадарску. Узгадайце, якія аграмадныя працэнты браў тут Пазьняк на прэзыдэнцкіх выбарах Адна сапраўды масавая, народная арганізацыя - як варыянт, хаўрус франтаўцаў з грамадоўцамі, або тая ж «Гарадзенская

Не дапусьціць, каб Паўночна-Заходняя Беларусь была пераўтвораная ў рэзэрвацыю, дзе беларусам дадуць поўнае права выраджацца й вымірацць. Не здавацца. Ня хныкаць. Не зрывацца ў раж нянавісьці. Я вельмі прашу вас, дарагія чытачы ПАГОНІ: проста адчуйце, што вы жывеце ў самым сэрцы роднае Беларушчыны. Адчуйце, як гэтае сэрца б'ецца, як адстуквае па сэкундах сёньняшні час. Проста палюбіце свой няшчасны й геніяльны край як самога сябе. І тады ФУНДАМЭНТАЛЬНАЯ БЕЛАРУСЬ сапраўды падымецца на ўвесь рост.

PS:Артыкул друкуецца на мове арыгіналу.

## Пра Ўваскрашэнне Выратавальніка і шмат іншага

Красавік стаў месяцам-апірышчам для хрысціян Сусвету. У іх дамы прыйшло вялікае свята -Дзень Ўваскрашэння Выратавальніка. У кожны дом вернікаў-хрысціян прыйшло Вялікоднае віншаванне духоўных лідараў Рыма-каталіцкай і Праваслаўнай канфесій ў якіх Гэрархі віншавалі паству з Светлым Днём Ўваскрашэння Сына Божага Ісуса, жадалі верным радасці, шацунку, дабрабыту, любові, і цярпімасці да бліжняга.

Аднак,Вялікодныя дні хрысціяне Планеты Зямля на жаль, святкуюць не разам. Каталікі адзначылі Вялікдзень восьмага красавіка, праваслаўныя пятнаццатага. Безумоўна, такое шкодна адбіваецца на ўзаемапаразуменні людзей розных канфесій. Асабліва адчуваюцца гэткія хібы ў нас на Гарадзеншчыне, дзе дагэтуль ў некаторых сем'ях існуе ганебная практыка : праваслаўная не выходзіць замуж за каталіка, каталік не бярэ шлюбу з праваслаўнай. А колькі потым непаразуменняў дзе хрысціць немаўля? Родныя каталікі прагнуць зрабіць гэта ў касцёле, родныя праваслаўныя прагнуць гэтага чыну ў царкве. Асабіста мне, як хрысціяніну, – гэта вельмі непадабаецца, бо неаднаразова чуеш на сустрэчах Гэрархаў гэтых самых ўплывовых хрысціянскіх канфесій Сусвету, што ідзе дыялог аб значным збліжэнні Праваслаўнай і Рыма-Каталіцкай царкы. Дасціпныя назіральнікі наадварот канстатуюць не збліжэнне, а наадварот адхіленне і маўклівае неўспрыманне ідэі еднасці.

А пакуль царкоўнікі і касцёльнікі цягнуць коўдру кожны на сябе ў грамадзтве побач з крыватолкамі і паўсмехам ідзе пазітыўны працэс паразумення. На двары ўжо дваццацьпершае стагоддзе. Можа надарыцца так, што гэты прагрэсіўны працэс адбудзецца сам без удзелу ў ім ксяндзоў і папоў.

# Футбол і вясення надзеі беларускіх “ціфозі”

Напрыканцы сакавіка стартаваў чарговы Нацыянальны чэмпіянат Рэспублікі Беларусь па футболу. Згадаем адразу, ў многіх беларускіх аматаў гульні ў скураны мяч хапала трывогі ад інфармацыі аб жаданні пэўных ўкраінскіх функцыянераў інтэгравацца ў чэмпіянат Расеі і стварыць на яе базе нейкае штучнае першынство СНД. Трывожна было ад таго, што і беларускія інтэгратары з Расеяй падхапілі гэты ўкраінскі лозунг. Здаровы сэнс перамог і ва Ўкраіне і на абсягах нашае Айчыны. Мы маем паўнавартасны свой нацыянальны чэмпіянат. І каманды ў ім згулялі некалькі тураў. Лідзіруюць



Футбольныя клубы Мінска і Гомеля. Наш “Нёман”-традыцыйна знаходзіцца ў залатой сярэдзіне.Замыкаюць турнітрую табліцу футбалісты Берасця і Мазыра.



# Гарадзенскі хакей ізноў толькі срэбны

Першая дэкада красавіка стала вырашальнай для фінальнай стадыі адкрытага чэмпіянату Беларусі па хакеі.

Наноў пасля серыі плэй-оф фінальную пульку склалі гульцы гарадзенскага ХК”Нёман” і хакеісты ХК “ Металург” з перыферыйнага горада Жлобін.

На жаль, сапраўдная барацьба мела месца толькі ў стартавых гульнях. Затым нягледзячы на фантастычную падтрымку мясцовых заўзятараў хакею гарадзенцы аддалі ініцыятыву сапернікам і прайгралі фінальную серыю з лікам 2-4. Другі год запар каманда з берагоў Нёмана задаволіла сябе сціплым срэбраным медалём.



Калі разборкі Адкрытага Чэмпіянату Беларусі сталі гісторыяй, то Нацыянальнай зборнай спраў ў гэты перыяд хоць адбаўляй. Ранні вылет флагмана беларускага хакею менскага “Дынама” з плэй-оф КХЛ паставіў задачу перад трэнерскім штабам нацыянальнай каманды даць хакеістам сапраўдную гульнявую практыку. Зараз зборная рыхтуецца да чэмпіянату свету ў сталіцы рэспублікі, затым плануецца выезд на некалькі прэстыжных спарынгаў.

Што ж пачакаем да траўня, калі лепшыя каманды сусвету пакажуць сваю гульню на лядовых арэнах скандынаўскай паўвыспы. Тады і спазнаем чаго варты беларускі гарт.



Свабоднае інфармацыйнае выданне
Заснавальнік: Абласная Рада сяброў БХД Гародні.
Надрукавана на ксераксе с. М. Кухты
Наклад 299 паасобнікаў
Адказны за выпуск: Георг Нёман